Праваабарончы
# Веснік

чэрвень 2012

Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# У БЕЛАРУСІ НОВЫ ПАЛІТВЯЗЕНЬ – ЖУРНАЛІСТ АНДРЭЙ ПАЧОБУТ

**Праваабарончы цэнтр "Вясна" рашуча асуджае арышт і абвінавачанне ў паклёпе на прэзідэнта журналіста Андрэя Пачобута, расцэньваючы гэта як палітычна-матываваны пераслед за прафесійную дзейнасць і выказванне меркавання. Мы лічым Андрэя Пачобута новым палітычным зняволеным і патрабуем ягонага неадкладнага і безумоўнага вызвалення.**

21 чэрвеня 2012 г. у г. Гродна быў затрыманы і ўзяты пад варту журналіст Андрэй Пачобут. Падставай для арышту журналіста стала крымінальная справа па ч. 2 арт. 367 КК Рэспублікі Беларусь (паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), узбуджаная Следчым камітэтам па Гродзенскай вобласці згодна з матэрыяламі праверкі, праведзенай абласным упраўленнем КДБ. Па выніках праверкі ўпраўленне КДБ зрабіла выснову, што ў шэрагу публікацый Андрэя Пачобута на некаторых інтэрнэт-рэсурсах утрымліваюцца "паклёпніцкія выказванні адносна А. Лукашэнкі".

У адпаведнасці з санкцыяй часткі 2 артыкула 367 КК, Андрэю Пачобуту пагражае да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Андрэй Пачобут на дадзены момант адбывае пакаранне ў выглядзе 3 гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады згодна з прысудам, вынесеным 5 ліпеня 2011 года судом Ленінскага раёна г. Гродна за паклёп у адносінах да прэзідэнта (частка 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса).



*Андрэй Пачобут*

Праваабарончы цэнтр "Вясна" расцэньвае пераслед Андрэя Пачобута як расправу над журналістам за ягоную прафесійную дзейнасць, а таксама дэманстратыўную пагрозу для ўсёй журналісцкай супольнасці напярэдадні правядзення парламенцкіх выбараў. Мы з трывогай адзначаем, што дадзены рэпрэсіўны крок успрымаецца як адназначны сігнал усім грамадска-палітычным суб'ектам, якія падчас выбарчай кампаніі могуць выступаць з крытыкай існуючай улады.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" настойвае на адмене дыфамацыйных артыкулаў у Крымінальным кодэксе, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за паклёп, абразу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іншых службовых асобаў, дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. Мы глыбока перакананыя, што дадзеныя артыкулы знішчаюць свабоду выказвання меркавання, гарантаваную Канстытуцыяй, а таксама выкарыстоўваюцца выключна для палітычна-матываванага пераследу іншадумцаў.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" патрабуе:

- Спыніць крымінальны пераслед у дачыненні да Андрэя Пачобута і неадкладна вызваліць яго з-пад варты.
- Неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітзняволеных, якія знаходзяцца пад вартай ці ў месцах пазбаўлення волі.
- Прывесці заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне свабоды выказвання меркавання.

# “МЫ БУДЗЕМ ТРЫМАЦЬ ВОЧЫ АДКРЫТЫМІ ЎВЕСЬ ВЫБАРЧЫ ПРАЦЭС”

**21 чэрвеня “Праваабаронцы за свабодныя выбары” абвесцілі пра пачатак кампаніі па маніторынгу выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 5-га склікання.**

Уходзе прэс-канферэнцыі старшыня Беларускага хельсінскага камітэта Алег Гулак адзначыў, што выбары – найважнейшая грамадска-палітычная падзея для краіны, дзе ход, працэс і вынікі вельмі моцна звязаныя з правамі.

Праваабаронцы таксама адсочваюць тую атмасферу, на фоне якой адбываюцца сённяшнія выбары. “У Беларусі зараз складаная сітуацыя і неспрыяльная для правядзення выбараў, бо ў краіне застаюцца палітвязні, працягваюцца затрыманні палітычных і грамадзянскіх актывістаў. Таму краіну апанавала атмасфера страху, - кажа Алег Гулак. – Заклікі да байкоту з боку некаторых апазіцыйных лідэраў таксама сведчаць пра тое, што людзі не вераць ў справядлівыя вынікі, у тое, што выбары выконваюць сваю функцыю ў дзяржаве – спрыяюць змене ўлады. Гэта зніжае каштоўнасць выбараў, аднак гэта не значыць, што зараз ужо можна сцвярджаць, што выбары будуць сфальсіфікаваныя. Мы будзем аб’ектыўна падыходзіць да назірання за парламенцкімі выбарамі, каб найбольш поўна адлюстраваць сапраўдную сітуацыю”.

Падчас назірання акцэнт будзе рабіцца на яўку выбаршчыкаў. Намеснік старшыні праваабарончага цэнтра “Вясна” Валянцін Стэфановіч адзначыў: “Парламенцкія выбары ў нашай краіне на сёння не маюць такой цікавасці ў людзей, як прэзідэнцкія, таму ўлады могуць скарыстаць свае метады, каб штучна павышаць колькасць выбаршчыкаў, прымушаць іх да галасавання. Таму нам трэба рабіць акцэнт на яўку выбаршчыкаў, пільна сачыць за лічбамі ў пратаколах, якія камісія мусіць вывешваць кожны дзень”.


*Алег Гулак*

“Праваабаронцы за свабодныя выбары” плануюць задзейнічаць 400 назіральнікаў на 106-ці выбарчых акругах, усяго ж падчас выбараў будзе каля 25 тысяч назіральнікаў. “За нашай працай сочаць не толькі журналісты, ЦВК, але і іншыя структуры. КДБ ужо цікавіўся, што мы будзем рабіць падчас выбараў. Хацелася б, каб упаўнаважаныя органы рэагавалі на нашыя заўвагі і прадпрымалі прававыя дзеянні паводле зафікасаваных намі парушэнняў”, - кажа старшыня БКХ.

Праваабаронцы таксама адзначылі, што яны гатовыя да супрацоўніцтва і абмена інфармацыі з іншымі назіральнікамі, у тым ліку міжнароднымі.

Нягледзячы на тое, што сённяшняе назіральніцтва будзе праходзіць у складаных умовах, калі старшыня “Вясны” Алесь Бяляцкі знаходзіцца за кратамі, а офіс цэнтра пад пагрозай канфіскацыі, праваабаронцы перакананыя, што маніторынг выбараў пройдзе ў поўным аб’ёме. Сталыя назіральнікі ўжо прайшлі першапачатковы інструктаж. Алег Гулак падкрэсліў, што ў кваліфікацыі сваіх назіральнікаў праваабаронцы ўпэўненыя, водгукі міжнародных назіральнікаў адносна іх таксама станоўчыя.

Будзе ўлічаны папярэдні досвед назірання за выбарамі ў Беларусі. Сёлета “Праваабаронцы за свабодныя выбары” ўжо чацвёрты раз будуць працаваць сумесна. “Самая складаная праца ў нашых юрыстаў, якія рыхтуюць абскарджанні паводле парушэнняў, зафіксаваных на выбарах. На жаль, ні пракуратура, ні суды, ні выбарчыя камісіі не разглядаюць іх належным чынам. Але мы ўсё адно будзем збіраць інфармацыю аб парушэннях для маніторынгу сітуацыі. Мы будзем трымаць адкрытымі вочы ўвесь выбарчы працэс, каб сабраць як мага поўную інфармацыю”, - падсумаваў старшыня БХК.

# АНАЛІТЫЧНАЯ ТЫДНЁВАЯ СПРАВАЗДАЧА ПА ВЫНІКАХ НАЗІРАННЯ: 18-24 ЧЭРВЕНЯ

**Грамадская кампанія «Праваабаронцы за свабодныя выбары» апублікавала сваю першую справаздачу.**

***ВЫБАРЫ ДЭПУТАТАЎ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПЯТАГА СКЛІКАННЯ***

***Аналітычная тыднёвая справаздача па выніках назірання №1***

***Перыяд агляду: першы тыдзень выбарчай кампаніі ад 18 да 24 чэрвеня 2012г.***

**Агульныя высновы**

*У разгляданы перыяд Указам Прэзідэнта была абвешчана дата выбараў – 23 верасня 2012 г.; Цэнтральнай камісіяй былі створаныя выбарчыя акругі і зацверджаныя метадычныя матэрыялы;*

*Выбарчая кампанія пачынаецца ў неспрыяльных умовах, на фоне палітычных рэпрэсій, ва ўмовах ціску на апазіцыю і грамадзянскую супольнасць. У турмах працягваюць знаходзіцца палітычныя вязні, а нядаўні арышт незалежнага журналіста Андрэя Пачобута сведчыць аб узмацненні рэпрэсій у адносінах да незалежных СМІ.*

*Пачалося вылучэнне ўпаўнаважанымі суб'ектамі прэтэндэнтаў на сяброўства ў акруговых выбарчых камісіях;*

*Працягваўся працэс вызначэння палітычных сіл адносна стратэгіі і тактыкі ўдзелу ў выбарчай кампаніі;*

*Выклікае занепакоенасць магчымае ўвядзенне адміністратыўнай адказнасці за правядзенне несанкцыянаваных сацыялагічных апытанняў.*

**Уводзіны**

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу пятага склікання былі прызначаныя Указам Прэзідэнта ад 18 чэрвеня 2012 года №276. Асноўнае галасаванне павінна адбыцца 23 верасня 2012 года, а пры неабходнасці другі тур павінен прайсці не пазней за 7 кастрычніка 2012.

Маючыя адбыцца парламенцкія выбары павінны стаць першымі парламенцкімі выбарамі, праведзенымі паводле абноўленай рэдакцыі Выбарчага кодэкса, прынятай 4 студзеня 2010 года. Трэба адзначыць, што досвед выпрабавання ў 2010 годзе нормаў новага Кодэкса падчас выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў і, асабліва, падчас выбараў Прэзідэнта, адназначна сведчыць: унесеныя ў Выбарчы кодэкс змены не з'яўляюцца дастатковым сродкам для прадухілення парушэнняў прынцыпаў свабодных і справядлівых выбараў.

Адметнасцю гэтай выбарчай кампаніі будзе яе правядзенне ў рэпрэсіўных ўмовах, што захоўваюцца ад часу мінулай выбарчай кампаніі па выбарах прэзідэнта (ад 19 снежня 2010 года). У тым ліку да гэтай спецыфікі належыць і дэкляраваны шэрагам апазіцыйных палітычных сілаў намер байкатаваць выбары альбо зняць кандыдатуры сваіх вылучэнцаў на фінальным этапе кампаніі, калі ўлады не пойдуць на вызваленне палітвязняў і не зменяць іншых умоваў правядзення выбараў.

**Нарматыўнае рэгуляванне выбарчага працэсу**

Выбары будуць адбывацца з улікам тых зменаў у Выбарчы кодэкс, што былі ўведзеныя ў 2010 і ў 2011 гадах. Сярод новаўвядзенняў, якія будуць упершыню апрабаваныя ва ўмовах парламенцкіх выбараў у Беларусі, варта назваць спрашчэнне умоваў правядзення агітацыі, уключна з пікетамі па зборы подпісаў і сустрэчамі кандыдатаў з выбаршчыкамі. Таксама з'явілася магчымасць фармавання індывідуальных выбарчых грашовых фондаў, правядзення дэбатаў кандыдатаў, квоты на ўдзел у выбарчых камісіях прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў. У параўнанні з мінулымі выбарамі ў Кодэкс унесеныя абмежаванні адносна папаўнення выбарчых фондаў кандыдатаў за кошт ахвяраванняў прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі і суб'ектаў, што атрымлівалі замежную дапамогу.

Кіраўніца Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына неаднаразова адзначала пра сваю адданасць курсу дзейснага кіраўніка дзяржавы, і ў снежні 2011 года была на новы тэрмін прызначаная кіраваць Цэнтральнай камісіяй, нягледзячы на дасягненне гранічнага ўзросту для знаходжання на дзяржаўнай службе. Гэта дазваляе меркаваць, што нарматворчая і тлумачальная палітыка Цэнтральнай камісіі пры правядзенні выбараў не будзе змененая.

Пастановы Цэнтральнай камісіі таксама з'яўляюцца важнай метадычнай крыніцай, якая нарматыўна рэгулюе і тлумачыць шматлікія аспекты выбарчай кампаніі. Ужо 19 чэрвеня, на наступны дзень пасля прызначэння

*Працяг на старонцы 4*

# АНАЛІТЫЧНАЯ ТЫДНЁВАЯ СПРАВАЗДАЧА ПА ВЫНІКАХ НАЗІРАННЯ: 18-24 ЧЭРВЕНЯ

*Працяг.*
*Пачатак на на старонцы 3*

выбараў, Цэнтральная камісія прыняла шэраг пастановаў, датычных парламенцкіх выбараў.

Варта адзначыць, што напярэдадні парламенцкіх выбараў была заканадаўча ўзмоцненая кампетэнцыя КДБ, што стварае асабліва спрыяльныя ўмовы для кантролю за выбарчым працэсам.

Напярэдадні выбараў не былі зменены альбо скасаваныя нормы беларускага заканадаўства, якія служаць прадметам крытыкі з боку праваабарончай супольнасці, у тым ліку ў Крымінальным кодэксе застаецца адказнасць за дзейнасць у складзе незарэгістраванага грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі, фонда альбо палітычнай партыі, а таксама адказнасць за паклёп альбо знявагу на адрас прэзідэнта, дзяржаўных службовых асобаў.

**Кантэкст выбарчага працэсу: праблема палітвязняў**

Прынцыпова важнай акалічнасцю, якая вызначае грамадскую атмасферу ў краіне напярэдадні выбараў, з'яўляецца наяўнасць палітвязняў. На момант абвяшчэння выбараў Праваабрончы цэнтр "Вясна" прызнае наяўнасць у Беларусі чатырнаццаці палітычных вязняў і патрабуе іх неадкладнага вызвалення.

Дрэнным знакам на пачатку выбарчай кампаніі стала зняволенне 21 чэрвеня гарадзенскага журналіста і актывіста польскай меньшасці Андрэя Пачобута, які быў абвінавачаны ў абразе прэзідэнта.

21 чэрвеня пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне дырэктару ўстановы "Платформа" Андрэю Бандарэнку пра магчымае прыцягненне да крымінальнай адказнасці за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. Падставай для папярэджання стаў удзел праваабаронцы ў грамадскай кампаніі супраць правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі ва ўмовах наяўнасці ў краіне палітвязняў.

А. Лукашэнкам было неад-




наразова заяўлена пра магчымасць вызвалення палітычных зняволеных па амністыі, прымеркаванай да Дня Рэспублікі 3 ліпеня. Аднак значная частка аналітыкаў схіляецца да меркавання, што існуючая эканамічная і міжнародная абстаноўка дазваляе беларускім уладам і далей заставацца ў сітуацыі канфлікту з Еўрасаюзам, гандлюючыся за больш істотныя саступкі. Гэта азначае, што частка вязняў сумлення, верагодна, яшчэ пэўны час будзе знаходзіцца ў зняволенні, і гэта можа стацца прычынай сыходу часткі апазіцыйных кандыдатаў з выбарчай гонкі.

**Канфігурацыя асноўных палітычных сілаў**

На дадзены момант у беларускай партыйнай сістэме назіраецца тры плыні паводле стаўлення да магчымага ўдзелу у выбарах.

Большасць незарэгістраваных палітычных суб'ектаў выступае супраць любога ўдзелу у выбарах. Гэтую пазіцыю займае нефармальная і блізкая да экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава кааліцыя "Еўрапейская Беларусь", незарэгістраваны аргкамітэт Беларускага Руху, незарэгістраваны аргкамітэт Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Малады фронт, Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ.

Апроч групы сацыял-дэмакратаў вакол Міколы Статкевіча, пра ўдзел у выбарах заявіла Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада) на чале з Ірынай Вештард і Партыя левых "Справядлівы Свет". Пра ўдзел у выбарах заявіла і ЛДПБ, але наўпрост праўладныя партыі пакуль пазіцыяў адносна ўдзелу у выбарах не рабілі. Грамадскае аб'яднанне "Белая Русь" як асноўная праўладная грамадская сіла абвесціла пра намер актыўна падтрымліваць блізкіх ёй кандыдатаў, аднак паколькі праект пераўтварэння гэтага аб'яднання ў палітычную партыю не быў рэалізаваны, пра яго паўнавартасны ўдзел у кампаніі на палітычным узроўні пакуль казаць нельга.

Шэраг зарэгістраваных палітычных партыяў беларускай апазіцыі абвесцілі пра намер вылучыць сваіх кандыдатаў праз партыйнае вылучэнне, але зняць іх у сувязі з невыкананнем патрабаванняў аб змяненні ўмоваў вядзення выбарчай кампаніі. Пра такую пазіцыю заявілі Аб'яднаная гра-

мадзянская партыя і Партыя БНФ. У падтрымку гэтай пазіцыі выказваліся Рух "За свабоду" і кампанія "Гавары праўду", але з улікам, што гэтыя суб'екты самастойна кандыдатаў не вылучаюць (а толькі падтрымліваюць кандыдатаў, вылучаных зборам подпісаў) – пазіцыя гэтых двух суб'ектаў можа змяніцца зыходзячы са стаўлення кожнага асобнага кандыдата адносна будучага зняцця сваёй кандыдатуры.

За перыяд маніторынгу быў зафіксаваны шэраг сустрэч рэгіянальных аддзяленняў партый па вызначэнні тактыкі ўдзелу ў выбарчай кампаніі. Палітычныя сілы, што маюць намер так ці інакш удзельнічаць у кампаніі, працягваюць працэс фармавання спісаў кандыдатаў у дэпутаты і сябры выбарчых камісіяў.

**Назіранне і маніторынг выбараў**

З пазітыўных зменаў, якія ўводзяцца ў парадак працы назіральнікаў, варта адзначыць надзяленне кіруючых органаў палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў правам вылучыць назіральнікаў на ўсе ўчасткі для галасавання незалежна ад сваіх арганізацыйных структураў. У часе папярэдняй кампаніі гэтае пытанне выклікала пэўныя спрэчкі і непаразуменні, што запатрабавала дадатковага асобнага ўрэгулявання.

21 чэрвеня кампанія "Праваабаронцы за свабодныя выбары" абвесціла пра пачатак кампаніі па маніторынгу выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 5-га склікання. Кампанія будзе ажыццяўляцца сіламі Беларускага Хельсінкскага Камітэту і Праваабарончага цэнтру "Вясна". Пра намер з'дзяйсняць назіранне за выбарамі заявілі каардынатары кампаніі "За справядлівыя выбары", якая ладзіцца з ініцыятывы 13 палітычных партыяў і грамадскіх аб'яднанняў, уключна з асноўнымі апазіцыйнымі палітычнымі партыямі. Раней анансаваная Партыяй "Зялёныя", Партыяй БНФ і Рухам "За свабоду" асобная кампанія назірання "Народны кантроль – за сумленныя выбары" уключылася ў гэтую супольную кампанію. Арганізатары кампаніі "За справядлівыя выбары" плануюць вылучыць 1000 чалавек у якасці кандыдатаў у склад выбарчых камісій і 2000 назіральнікаў. Напярэдадні выбараў гэтая кампанія спрабавала зарэгістравацца ў якасці грамадскага аб'яднання, але сутыкнулася з адмовай у рэгістрацыі з боку Міністэрства юстыцыі.

19 чэрвеня Лідзія Ярмошына паабяцала журналістам, што "Назіральнікі ад АБСЕ будуць прысутнічаць на парламенцкіх выбарах", але не змагла назваць канкрэтныя тэрміны іх працы, спаслаўшыся на Міністэрства замежных спраў, якое мусіць дасылаць запрашэнне.

**Фармаванне выбарчых акругаў і вылучэнне прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі**

Першыя ўступныя звесткі пра межы выбарчых акругаў сведчаць пра некаторыя істотныя змены: у прыватнасці, у Мінску знікла Сухараўская выбарчая акруга, дзе былі моцныя пазіцыі дэмакратычных кандыдатаў (яе тэрыторыя была падзеленая з іншымі суседнімі акругамі), упершыню ў складзе Жодзінскай АВК адсутнічае г. Смалявічы. Шэраг акругаў маюць істотныя адхіленні ад папярэдне вызначанай Цэнтральнай камісіяй сярэдняй колькасці выбаршчыкаў. Напрыклад, колькасць выбаршчыкаў у Аршанскай гарадской акрузе №26, якая ўключае ў сябе горад Оршу, узрасла ў параўнанні з 2008 годам з 66 658 да 69 015 чалавек, г.зн. тых, хто галасуе, стала больш на 2 357. У той жа час дадзеныя статыстыкі пацвярджаюць, што колькасць насельніцтва Оршы паменшылася амаль на 3 000 чалавек. Падобныя нестыкоўкі даюць падставу для недаверу афіцыйнай інфармацыі.

Структуры Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай заявілі пра тое, што яе арганізацыі ўжо распачалі вылучэнне прэтэндэнтаў у склад акруговых выбарчых камісіяў. З апазіцыйных партыяў пра прынящцё аналагічных рашэнняў заявілі партыі АГП, ПБНФ, Партыя левых "Справялівы свет", а таксама арганізацыйныя структуры ГА БНФ "Адраджэньне". Вылучэнне прэтэндэнтаў у акруговыя камісіі працягнецца да 6 ліпеня.

**Сацыялагічныя апытанні пад пагрозай**

Асобную ўвагу ў кантэксце выбарчага працэсу выклікае паведамленне пра магчымае ўвядзенне адміністратыўнай адказнасці за парушэнне ўстаноўленага парадку правядзення сацыялагічных апытанняў. Згодна з паведамленнямі, у Палату прадстаўнікоў з ініцыятывы прэзідэнта накіраваны праект закона аб унясенні паправак у Кодэкс аб адміністрацыйных парушэннях. У ліку прапанаваных змяненняў Кодэкса – новы артыкул "Незаконнае правядзенне апытанняў грамадскай думкі".

Існуе верагоднасць, што ўвядзенне гэтага артыкулу можа абыцца вельмі аператыўна – яшчэ на вясенняй сесіі парламенту. У такім выпадку дзейнасць сацыёлагаў, а таксама СМІ, што паведамляюць пра вынікі сацыялагічных даследванняў, зробіцца сур'ёзна абмежаванай.

# У БЕЛАРУСІ 14 ПАЛІТВЯЗНЯЎ

**У Беларусі за кратамі ўтрымліваюцца 14 чалавек, якія асуджаныя па палітычных матывах. Праваабарончы цэнтр «Вясна» вызнае палітзняволенымі наступных асобаў:**

**1. Мікалай Аўтуховіч (прадпрыймальнік)** – *узяты пад варту 8 лютага 2009 г., асуджаны 06.05.2010 Вярхоўным судом па ч. 3 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні ў адносінах да вогнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) да 5 гадоў і 2 мес. пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Рашэннем суду ад 17.01.2012 умовы адбыцця пакарання былі змененыя на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №5 у Івацэвічах ў турму №1 г. Гродна.*

**2. Алесь Бяляцкі (старшыня Праваабарончага цэнтру «Вясна»)** – *узяты пад варту 4 жніўня 2011 г., асуджаны 24.11.2011 г. судом Першамайскага раёна г. Менску па ч.2 арт. 243 КК (утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры) да 4,5 гадоў пазбаўлення волі узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Знаходзіцца ў калоніі №2 ў Бабруйску.*

**3. Зміцер Дашкевіч (лідэр «Маладога Фронту»)** – *узяты пад варту 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г. Менску па ч. 2 арт. 339 КК (злоснае хуліганства) да 2 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах агульнага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №13 у Глыбокім.*

**4. Сяргей Каваленка (сябра Кансерватыўна - Хрысціянскай партыі БНФ)** – *узяты пад варту 22 снежня 2011 г. па арт.415 КК (парушэнне ўмоваў адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі). 14.05.2010 г. ён быў асуджаны па ч.1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) Кастрычніцкім судом г. Віцебска да 3 гадоў абмежавання волі. Знаходзіцца ў калоніі №19 у Магілёве.*

**5. Эдуард Лобаў (актывіст «Маладога Фронту»)** – *узяты пад варту 18 снежня 2010 г., асуджаны 24.03.2011 г. судом Маскоўскага раёна г. Менску па ч. 3 арт. 339 КК (асабліва злоснае хуліганства) да 4 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах строгага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**6. Андрэй Пачобут (журналіст)** – *узяты пад варту 21 чэрвеня 2012 г. па абвінавачанні ў ч.2 арт.367 КК (паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які змяшчаецца ў сродках масавай інфармацыі, паўторна). Да суду знаходзіцца ў следчай турме г. Гродна.*

**7. Павал Севярынец (сустаршыня партыі БХД)** – *узяты пад варту 20 снежня 2010 г., асуджаны 16.05.2011 г. судом Заводскага раёна г. Менску па ч.1 арт. 342 КК да 3 гадоў абмежавання волі. Знаходзіцца ў ПУАТ-7 в. Куплін.*

**8. Мікалай Статкевіч (кандыдат у прэзідэнты - 2010)** - *узяты пад варту 20 снежня 2010 г., асуджаны 26.05.2011 г. судом Партызанскага раёна г. Менску па ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў, якія суправаджаліся гвалтам над асобай, пагромамі, падпаламі, знішчэннем маёмасці і узброеным супрацівам прадстаўнікам улады) да 6 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.01.2012 г. умовы адбыцця пакарання былі змененыя на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №17 у Шклове ў турму №4 г. Магілёва.*

**9. Ігар Аліневіч (асуджаны па «справе анархістаў»)** – *узяты пад варту 29 лістапада 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г. Менску па ч.2 арт. 339 КК, ч.2 і ч.3 арт.218 КК (пашкоджанне маёмасці агульнанебяспечным спосабам і ў асабліва буйным памеры) да 8 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №10 у Наваполацку.*

**10. Мікалай Дзядок (асуджаны па «справе анархістаў»)** – *узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г. Менску па ч.2 арт. 339 КК да 4,5 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №17 у Шклове.*

**11. Аляксандр Францкевіч (асуджаны па «справе анархістаў»)**– *узяты пад варту 3 верасня 2010 г., асуджаны 27.05.2011 г. судом Заводскага раёна г. Менску па ч.2 арт. 351 КК (наўмыснае знішчэнне кампутарнай інфармацыі) і ч.2 арт.339 КК да 3 гадоў пазбаўлення волі ва*

*ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №22 у Івацэвічах.*

**12. Яўген Васьковіч* (асуджаны па «справе нападу на бабруйскі КДБ»)** – *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г. Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Рашэннем суду ад 12.10.2011 г. умовы адбыцця пакарання былі зменены на больш жорсткія, пераведзены з калоніі №15 у Магілёве ў турму №4 г. Магілёва.*

**13. Арцём Пракапенка* (асуджаны па «справе нападу на бабруйскі КДБ»)** - *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г. Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №15 у Магілёве.*

**14. Павал Сырамолатаў* (асуджаны па «справе нападу на бабруйскі КДБ»)** - *узяты пад варту 17 студзеня 2011 г., асуджаны 18.05.2011 г. судом Бабруйскага раёна і г. Бабруйску ч.2 арт.339 КК і ч.3 арт.218 КК да 7 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. Знаходзіцца ў калоніі №19 у Магілёве.*

**У дзеяннях дадзеных асобаў углядаюцца прыкметы правапарушэння, але ПЦ «Вясна» адзначае несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. ПЦ «Вясна» лічыць, што яны ўжо адбылі дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволенні палітычна матываванае.*

## *СПРАВКА*

### КТО ТАКИЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЁННЫЕ?

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» *ПОЛИТЗАКЛЮЧЁННЫМ* называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

***УЗНИК СОВЕСТИ* — это человек, физическая свобода которого ограничена тюремным заключением либо иным способом исключительно из-за его политических, религиозных или иных убеждений, а также этнического происхождения, пола, расы, языка, национального или социального происхождения, имущественного статуса, родственных отношений, сексуальной ориентации и других характеристик личности. При этом узниками совести не считаются люди, прибегающие к насилию или пропагандирующие насилие и вражду.**

# БЕЛОРУССКИМ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫМ ВАЖНА ВАША ПОДДЕРЖКА

Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.

Вы можете написать политзаключенным письмо, подписать открытку, послать телеграмму (они принимаются также и по телефону, номер службы - 166).

**Алесь Беляцкий:** 213807, Могилевская обл., г. Бобруйск, ул. Сикорского, 1, ИК №2

**Николай Статкевич, Евгений Васькович:** 212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Николай Дедок:** 213004, Могилевская обл., г. Шклов, ИК №17

**Артем Прокопенко:** 213105 г. Могилев, Славгородское шоссе, п/о Вейно, ИК №15

**Павел Сыромолотов, Сергей Коваленко:** 213030, г. Могилев, Славгородское шоссе, 3-й км, ИК №19

**Николай Автухович:** 230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Дмитрий Дашкевич:** 211791, Витебская область, г. Глубокое, ул. Советская, 205, ИК №13

**Эдуард Лобов, Александр Францкевич:** 225295, Брестская обл., г. Ивацевичи, «Волчьи норы», а/я 20, ИК №22

**Александр Молчанов:** Минская область, г. Жодино, ул. Чапаева, 10б, СИЗО-8

**Игорь Олиневич:** 211440, Витебская обл., г. Новополоцк, ул. Техническая, 8, ИК №10

**Андрей Почобут:** 230023, г. Гродно, ул. Кирова, 1, тюрьма №1

**Павел Северинец:** 225143, Брестская обл., Пружанский р-н, д.Куплин, ПУАТ-7

**Старонка Магілёўскага аддзялення Праваабарончага цэнтру «Вясна» ў інтэрнэце:**

**www.mahilyowspring.org**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.